***«Мы павінны выкарыстоўваць свой аўтарытэт, свой голас, каб свет пра нас не забываўся. Беларусь — таксама Еўропа, мы самі мусім гэта прыняць і казаць на ўвесь свет.»***

**Альгерд Бахарэвіч**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэнне аб ліквідацыі ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны».**




**У СІЗА вязняў абмежавалі ў падпісках на газеты і часопісы: цяпер родныя і сябры палітзняволеных не змогуць аформіць для іх падпіску, такое права ёсць выключна ў супрацоўнікаў самога СІЗА за кошт сродкаў на асабовым рахунку зняволеных.**

**Мікола Дзядок, палітзняволены блогер, аўтар кнігі «Фарбы паралельнага сусвету», затрыманы 11 лістапада 2020 года, атрымаў 5 год калоніі агульнага рэжыму «за ўдзел у масавых беспарадках», «за захоўванне гаручых рэчываў» і “за распаўсюджванне матэрыялаў у інтэрнэце”.**





**Затрыманы Фёдар Чаранкоў, вакаліст гурта «Ня Варта». Пазней па месцы жыхарства Фёдара адбыўся ператрус, міліцыянты забралі кампутары. Папярэдне, падставай для затрымання стала яго падпіска на акаўнт у Instagram, прызнаны экстрымістскім.**

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Ігар Банцэр, палітзняволены музыка, атрымаў пераклад на беларускую мову гімну «Ліверпуля», які зрабіў Андрэй Аляксандраў, палітзняволены журналіст і паэт. Пазней стала вядома, што Ігару Банцэру дадалі яшчэ 10 содняў ШІЗА.**



**Уладзімір Мацкевіч, палітзняволены філосаф, метадолаг, адукатар і сябра ПЭН, якога вінавацяць у «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак», ужо 100 дзён знаходзіцца за кратамі. Яго тэксты вывучаюць на прадмет наяўнасці ў іх распальвання варожасці. Сам Мацкевіч упэўнены, што яго арыштавалі за крытыку рэжыму Лукашэнкі.**

**Вядома, што ў турме ён чытае лекцыі сукамернікам і піша кнігу. Каб падтрымаць Уладзіміра, ягоныя калегі запусцілі грамадзянскую кампанію «філосаф у турме» і публікуюць навіны пра яго, а таксама яго тэксты і ідэі. Паплечніца філосафа Таццяна Вадалажская раскazвае:**

***«Ён адчувае сябе някепска, улічваючы ўмовы. Вельмі не хапае прасторы і паветра для прагулак і роздумаў. Цяпер ён імкнецца прысвяціць увесь вольны час працы над тэкстамі філасофскімі, рэфлексіўнымі. Не перастае думаць пра тое, што і як трэба рабіць, каб выйсці з палітычнага крызісу».***



**Павел Севярынец, палітзняволены палітык і пісьменнік, за кратамі працягвае працу над новымі раманамі: «Беларусалім», «Дрэва жыцця», «Ісус Хрыстос размаўляе па-беларуску».**

**12 лістапада споўніўся год з затрымання студэнцкіх актывістаў.**
**12 фігурантам «справы студэнтаў» прысудзілі ад 2 да 2,5 гадоў калоніі за «арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».**
**Сярод іх - паэтка Ксенія Сырамалот і мастачкі Марыя Каленік і Кася Будзько.**



**Стала вядома, што Марыю Калеснікаву, палітзняволеную музыку і беларускую дзеячку, амаль восем месяцаў утрымліваюць у адзіночнай камеры. Яна расцэньвае гэта не толькі як ціск, але і як парушэнне яе правоў. Згодна з законамі, адзіночнае заключэнне з'яўляецца пакараннем.**





**Аляксандр Фядута, доктар філалогіі, літаратар, рэдактар, перакладчык, літаратуразнаўца, выдавец і сябра ПЭНа, арганізаваў у няволі «турэмны ўніверсітэт» для сукамернікаў. Яны чытаюць класіку, а потым слухаюць лекцыі Аляксандра і разам абмяркоўваюць прачытанае.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Прайшла анлайн-сустрэча на тэму «Шлях да несвабоды» Інтэлектуальнага клубу Святланы Алексіевіч, пісьменніцы, Нобелеўскай лаўрэаткі і старшыні беларускага ПЭНу.**







**Выйшаў новы выпуск літаратурных гутарак «Кантэкст» з Георгіем Ліхтаровічам пра Караткевіча і Пазняка, «Збор помнікаў» і людзей даўнейшай Беларусі.**

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава да 455-годдзя прыняцця другога Статута ВКЛ. Статуты Вялікага Княства Літоўскага — знакамітыя акты заканадаўчага характару, якія сталі выключнымі падзеямі ў гісторыі ўсёй Еўропы, а не толькі ВКЛ.**



**Дзмітры Строцаў**, паэт,
сябра ПЭНа,
стаў лаўрэатам
**Прэміі Курта Тухольскага**
ад Шведскага ПЭНа.





У Люблінскім выдавецтве «Варштаты культуры» выйшаў зборнік баладаў «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» **Уладзіміра Арлова** ў перакладзе на польскую мову **Багдана Задуры**.

Выйшаў буктрэйлер да кнігі **Тані Скарынкінай** «Райцэнтр» — шорт-лістара **прэміі Ежы Гедройца** 2021.





**Botanic project** прэзентавалі акустычную версію песні «Ратуй» на Майдане Незалежнасці ў Кіеве.

**<u>Фотапраект</u> «Скрадзеныя людзі» Шуры Піліповіч-Сушчыц, фатографкі выдання Наша Ніва, заняў другое месца ў катэгорыі «Канфлікт» конкурсу фатаграфіі «Прямой взгляд», які праводзіць Сахараўскі цэнтр. У праекце ёсць калажы і пра беларускіх палітзняволеных дзеячаў культуры ды іх сем'і.**






**У адным са сваіх лістоў Валянцін Стэфановіч, праваабаронца, зняволены з 14 ліпеня за «арганізацыю дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак і ўхіленне ад выплаты падаткаў», распавёў, што намаляваў прыгоды ката ў турме, але іх на волю не прапусціў цэнзар. Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаў людзей дасылаць малюнкі «Ката на Валадарцы» і за месяц атрымаў 19 ілюстрацый ад людзей рознага ўзросту і з розных краінаў: малюнкі дасылалі і дзеці, і студэнты з Італіі ды Расіі, і нават палітзняволеныя.**

**Выйшаў новы нумар літаратурнага часопіса «Дзеяслоў», які выдае Саюз беларускіх пісьменнікаў.**



11 лістапада адбылася анлайн-дыскусія ў межах сёлетняй прэміі імя Ежы Гедройця «Паўстанне мас: што прапануюць чытачу Гедройць і Белліт?» з Настай Грышчук, літаратурным крытыкам, і Настай Карнацкай, літаглядальніцай.







У выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў насценны «Каляндар па-беларуску» з малюнкамі і словамі на кожны дзень.

Яўген Малікаў, гомельскі гісторык і кандыдат мастацтвазнаўчых навук, заклікае выратаваць ад разбурэння гарадзішча мілаградскай культуры «Шведскую горку». У непасрэднай блізкасці ад помніка археалогіі плануецца будаўніцтва мікраараёну.





Свабодны тэатр рыхтуе спектакль «Gloomy sunday» пра жнівень-2020. Трупа была вымушаная пакінуць Беларусь праз рэпрэсіі.



Мікалай Халезін, арт-дырэктар Беларускага Свабоднага тэатра, разам з Сяргеем Будкіным, кіраўніком Беларускай Рады культуры, Андрэем Курэйчыкам, драматургам, і Наталляй Задзяркоўскай, прадстаўніцай НАУ па культуры, правялі дыскусію пра культурную палітыку Новай Беларусі.




Выйшаў дэбютны альбом «Слова» беларускай артысткі Паліны Дабравольскай (Chornabrova).

Аляксандр Філіпенка, Святлана Алексіевіч, Альгерд Бахарэвіч, Юлія Цімафеева, літаратары, а таксама Аляксей Палуян, рэжысёр, на круглым сталe абмеркавалі разам са Святланай Ціханоўскай сучасную культуру і яе развіццё ў свабоднай Беларусі.



Перад дыскусіяй Юлія Цімафеева зачытала свае вершы, а Аляксей Палуян паказаў урыўкі са свайго фільма «Кураж» пра падзеі жніўня 2020.




Беларускі аркестр Warsaw Freedom Orchestra і гурт Lity Taler прысвяцілі выступ з дудой палітзняволеным музыкам з гурта Irdorath, якіх бязвінна ўтрымліваюць у беларускай турме.

Праходзіць анлайн-выстава міжнароднага праекта «Галасы гвалту», якая распавядае гісторыі і досведы жанчын з Даніі, Ісландыі, Беларусі, Эстоніі, Латвіі і Літвы, якія перажылі сэксуальны гвалт, сэксізм ці іншыя формы гендарнага гвалту.



У прасторы «Вершы Культ» праходзіць выстава урбан-мастакоў і Юліі Савіч, фатографкі фестываля Vulica Brasil. Мастакі размалявалі сцяну і банэры, зрабіўшы адмысловыя фотазоны, а таксама на выставе прадстаўлены працы ў розных тэніках ад жывапісу да трафарэту.





Да 13 лістапада ў Варшаве можна паглядзець працы студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў на выставе «Штучная кома», якая адлюстроўвае, як пратэсты паўплывалі на моладзь і іх творчасць. Выстава таксама працуе анлайн.

Беларуская Рада культуры абвяшчае набор удзельнікаў на індывідуальныя арт-рэзідэнцыі. Для падачы, да 24 лістапада трэба запоўніць форму і дадаць неабходныя дакументы.



**Маланка** разам з **Андрэем Курэйчыкам**, рэжысёрам і сцэнарыстам, ладзяць кастынг для новага фільма пра актуальныя падзеі ў Беларусі.

Выйшла новая кніга «**Вецер ніштО і рэха цьмы**» **Ігара Кулікова**, паэта і перакладчыка.







**12 лістапада пачаўся фестываль беларускага кіно Bulbamovie, які праходзіць у Польшчы. Арганізатары кажуць: «Мы выйшлі з лесу, як партызаны, і наша місія — каб за год, максімум за два беларускае кіно вярнулася ў Мінск».**

**Платформа падтрымкі беларускай мовы** запусціла новы марафон агучвання «Мова прафесіі» для прасоўвання беларускай мовы ў абслугоўванні, у кол-цэнтрах, медыцыне, кавярнях, крамах, на запраўках, у IT і нават піваварэнні.






Маргарыта Ляўчук і Андрэй Павук, музыкі, зрабілі кавер песні «Залатыя Краты» гурта «Новае Неба» на словы Анатоля Сыса. Яны прысвяцілі песню памяці Рамана Бандарэнкі, забітага ў сваім двары мастака.

Ксіша Ангелава, беларуская мастачка, іканапісец і ўнучка рэпрэсаванага першага рэктара БНТУ Ніканора Ярашэвіча, за год напісала 200 партрэтаў людзей, зняволеных за сваю грамадзянскую пазіцыю.






**Выйшла дэбютная кніга Антося Уласенкі — «Новая зямля. Куканія».**

**Створаны новы часопіс «Працяжнік». Пілотны выпуск змяшчае апавяданні, пераклады, фотаздымкі і вершы.**




**У Варшаве прайшоў канцэрт Змітра Бартосіка, барда і літаратара.**




**Медыя пра маладых людзей у Беларусі WeTalk стварыла новы спецпраект «12» пра смелых прадстаўнікоў студэнцкай актыўнасці і 12 асуджаных па «справе студэнтаў».**

**Руслан Кулевіч, журналіст і літаратар, выдаў кнігу пра жыццё ў Гродна ў 1930–40-х гг на аснове ўспамінаў 89-гадовай Станіславы Румоўскай.**



# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Ганна Комар, паэтка і перакладчыца, сябра ПЭНа, рассказала пра месца пратэстаў у сваёй творчасці:**
***«Калі ў нас пачаліся пратэсты, рэдактарка маіх англійскіх перакладаў, амерыканская паэтка Мэры Колар запытала: «Эні, як ты збіраешся лекаваць раны свайго народу? Ты пісьменніца, табе давядзецца гэта рабіць». І я сапраўды бачу, як я ад асабістага досведу перайшла на досвед краіны, як гэта пераплялося ўва мне».***

**Алесь Бяляцкі, палітзняволены сябра Беларускага ПЭНа і праваабаронца, якога ўтрымліваюць у СІЗА амаль чатыры месяцы за «ўхілене ад выплаты падаткаў», даслаў з-за кратаў ліст да беларускі:**
***«Прыгажосць кастрычніка была відна і з вакна. Вежа аж блішчыць ад сонца, слепіць вочы».***





**Алена Анісім, старшыня Таварыства беларускай мовы, напярэдадні суду па ліквідацыі таварыства:**
***«Нават калі перастане існаваць ТБМ, то людзі існаваць не перастануць».***

**Андрэй Скурко**, палітзняволены аўтар газеты «Наша Ніва» і часопіса «Наша гісторыя», а таксама вандроўных нататак, казак, вершаў, сцэнароў коміксаў для дзіцячых выданняў, даслаў з «Валадаркі» ліст сваёй жонцы:

*«Думаў, што нашу сітуацыю ні ў якім разе нельга ўспрымаць як трагічную выпадковасць, злом лёсу і г.д. Тут не выпадковасць, а хутчэй заканамернасць. Такі цяпер час і так мы цяпер жывём, прыйдуць іншыя часы — будзе ўсё іначай. Прашу вас, знаходзьце нагоды для радасці і будзьце спакойныя за мяне».*





**Мікалай Халезін**, арт-дырэктар Беларускага Свабоднага тэатра:

*«Мінкульт мусіць адысці ад ролі патронаў, ад ролі падзелу грошай у кулуарах па непразрыстай схеме. У большасці краін такія ўстановы займаюцца захаваннем спадчыны. Што тычыцца творцаў, якія хочуць атрымаць дзяржаўнае фінансаванне, яны на конкурснай аснове павінны ўдзельнічаць у размеркаванні творчых грантаў».*

Да гадавіны смерці **Рамана Бандарэнкі**, мастака, які загінуў пасля збіцця сілавікамі ў ноч з 11 на 12 лістапада 2020 года, яго сястра **Вольга Кучарэнка**, дызайнерка, дала інтэрв'ю:

*«... Я ўпэўненая, што аднойчы справядлівасць пераможа. Смерць брата пацягнула за сабой мноства падзей, якія дапамагаюць расплюшчыць вочы на тое, што насамрэч адбываецца».*



Нагадаем, што нягледзячы на шэраг незалежных расследаванняў, у верасні Генпракуратура прыпыніла крымінальную справу, тлумачачы гэта тым, што яны не змаглі ўстанавіць асобу, датычную да забойства.



**Саша Філіпенка, пісьменнік, лічыць, што наступныя 10 гадоў беларусы будуць прапрацоўваць траўмы 2020 года і расказвае пра новую п’есу:**

***«Каб неяк разабрацца са сваімі пачуццямі, я напісаў п’есу пра суд над урачом, які адмовіўся лячыць АМАПаўца. На сцэне разгортваюцца падзеі, што тлумачаць паводзіны гэтага доктара, і ў канцы спектакля гледачы галасуюць, які прысуд варта вынесці падсуднаму і ці трэба яго судзіць увогуле. Пастаноўку па гэтай п’есы ўжо забаранілі ў Расіі…».***



**Альгерд Бахарэвіч, пісьменнік:**

***«За апошні год, што мы з жонкай, паэткай Юляй Цімафеевай, жывём не ў Беларусі, мы мелі столькі ўвагі да сваёй творчасці, у нас было столькі запрашэнняў на фестывалі, выступленні, колькі раней ніколі не было.***

***Мы за год далі 70 інтэрв'ю заходнім СМІ. Не адмаўлялі нікому. Няўжо ў краіне павінен быў адбыцца такі жах, каб на Беларусь звярнулі ўвагу?!***

***Мы становімся больш бачнымі, таму сваёй мэтай, мэтай тых, хто з’ехаў і мае магчымасць прамаўляць да шырокай публікі, мы бачым распове́д пра Беларусь. Мы павінны выкарыстоўваць свой аўтарытэт, свой голас, каб свет пра нас не забываўся. Беларусь — таксама Еўропа, мы самі мусім гэта прыняць і казаць на ўвесь свет. Мы не экзотыка і не кантынент, які затануў».***



**Лявон Вольскі, беларускі музыка і сябра ПЭНа, падзяліўся ў інтэрв’ю:**

***«Беларусь цяпер — гэта краіна надзеі вялікай <...> Былі сур’ёзныя ахвяры, і яны не проста так. Народ асэнсаваў і працягвае асэнсоўваць тое, што адбываецца».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**8 лістапада ў Гётэборгу, Швецыя, адбыўся семінар пра беларускіх літаратараў і дзеячаў культуры падчас пратэстаў, з удзелам тэатральнага калектыва «Крылы Халопа».**





**У Беластоку ўручылі прэмію імя Льва Сапегі. Лаўрэатамі сталі Кацярына Крывічаніна і Ігар Мельнікаў, беларускія даследчыкі. Мэта прэміі — адзначыць асоб, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і станаўленне незалежнай і дэмакратычнай Беларусі з увагі на супольную гісторыю нашых краін.**

**У бібліятэцы Вацлава Гаўла ў Празе 8 лістапада адбылася прэзентацыя кнігі «Беларусь на шляху да свабоды» Адэлы Дражанавай і Тэрэзы Шупавай, чэшскіх журналістак. Кніга тлумачыць чэхам, што такое сённяшняя Беларусь.**



**Міжнародны ПЭН патрабуе зняць блакіроўку з сайта Беларускага ПЭНа.**

**Больш за 4 тысячы чэхаў падпісаліся пад петыцыяй Amnesty International за вызваленне Марыі Калеснікавай, беларускай дзеячкі і музыкі.**

**Беларусы свету** выйшлі на акцыі памяці забітага ў сваім двары **Рамана Бандарэнкі**, мастака. Акцыі прайшлі ў Беларусі, Велікабрытаніі, Польшчы, Грузіі, Украіне і іншых краінах. **Петэр Стана**, афіцыйны прадстаўнік Еўрапейскай службы знешніх сувязяў, таксама выказаўся пра гадавіну з дня смерці Рамана Бандарэнкі:



***«Еўрапейскі саюз працягвае працаваць над правасуддзем для ахвяр і прыцягненнем вінаватых да адказнасці. Рэжым павінен спыніць рэпрэсіі і вызваліць усіх палітычных зняволеных».***



**Юры Дудзь**, расійскі журналіст і інтэрв'юэр, выпусціў інтэрв'ю з **Славам Камісаранка**, беларускім комікам, а таксама распавёў у сваім інстаграм пра беларускіх спявачак **Паліну** і **Ketevan** і падзяліўся іх кліпам на песню «Месяц».

**Вальжына Морт** напісала ліст **Алане Гебрамарыям**, палітзняволенай па «справе студэнтаў» актывістцы, у якім перадала прывітанне ад вядомай эфіопскай пісьменніцы **Маазы Менгістэ**:



***«Учора я распавядала пра вас Маазе Менгістэ, вядомай і шанаванай пісьменніцы з Эфіопіі, якая жыве ў Нью-Йорку. Мааза прасіла перадаць вам, што ведае пра вас, хвалюецца за вас, і шле вам і вашым калегам па крымінальнай справе словы падтрымкі і вялікай павагі».***

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**Па стану на 14 лістапада ў Беларусі 843 чалавекі прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца. Гэта, безумоўна, сведчыць пра тое, што ціск і рэпрэсіі з боку ўладаў не толькі не спыняюцца, але і набіраюць моц.**

**Беларускі ПЭН як аб'яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У лістападзе 5 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Антон Шніп, музыка (1 лістапада); Кацярына Андрэева, журналістка, пісьменніца (2 лістапада); Віктар Бабарыка, мецэнат (9 лістапада); Ігар Ярмолаў, танцор (15 лістапада) і Максім Крук, сцэнограф (16 лістапада). Давайце павіншуем разам!**

**Адрасы для лістоў:**

**Антону Шніпу і Максіму Круку – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Кацярыне Андрэевай – ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3;**

**Віктару Бабарыку – ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Технічная, 8;**

**Ігару Ярмолаву – ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8;**

